ISSN 0700-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К.Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!

# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Бышых Беларускіх Вайскоўцаў.

ZVAZAJ. Veterans quarterly published by Liaison Committee of Belarus War Veterans. Canada office: 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont., M4K 1C2. U.S. address: 9 River Rd., Highland Park, N.J., 08904, U.S.

Год 20 Чэрвень, 1994 Нр. 3[75]

## ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЛЁНДАНЕ

Не давайце веры таму, хто будзе маляваць вам брытанскую сталіцу ў вобразе ахутаных смогам старадаўніх і змрочных камяніцаў. Лёндан нагадвае вялізарны сад або расквечаны ўсімі колерамі і адценьнямі кветнік. Прынамсі, менавіта такім ён падаўся мне ў тыя сакавіцкія дні, калі я хадзіў па ягоных вуліцах, пляцах і парках, дзе кіпела ружовая квецень вішняў і малочна-белая — яблыняў, дзе ўрачыста зацьвіталі магноліі, а на клюмбах весела жаўцелі нарцызы, сьмяяліся браткі, падзіцячаму наіўна глядзелі на сьвет "жабіныя вочкі".

Сталася так, што пасьля сякіх-такіх прыгодаў на мытні ў порце Рапмсгэйт (бо, кажуць, і сапраўды трохі падобны да ірляндзкага тэрарысты) я прыехаў у Лёндан якраз 25 сакавіка. Па дарозе, у пустым вечаровым вагоне прыгараднага цягніка, агарнуўшы маркотаю, выплыў з памяці даўні верш Зянона Пазьняка:

> Сёньня Зьвеставаньне — дзень Бацькаўшчыны,
> толькі ніхто ня памятае пра гэта.
> Выйду з хаты, з хвоямі пагавару.

Але праз нейкую гадзіну, за гасьцінным сталом у Беларускай каталіцкай місіі на Holden road у раёне Фінчлей, той маркотны настрой расьсеяўся, як мітычны лёнданскі туман. Я зразумеў, што Кастусь Акула (гэта ён сустрэў мяне



*Пасол Рэспублікі Беларусь Алег Якавіцкі*

на вакзале Victoria ахвярна прачакаўшы цэлых шэсьць гадзінаў, бо ў менскіх міжнародных касах ня ведаюць раскладу) нездарма называў у сваіх лістах гэты куточак Лёндану "Фінчлейскай Беларусьсю". Айцец Аляксандар Надсан разам з дыяканам Зьміцерам, зь мілымі студэнткамі зь Менску Каралінаю і Ірынаю ды з спадаром Севам, што мае занящца каталёгізацыРй лёнданскае бібліятэкі імя Скарыны, распытвалі пра апошнія навіны ў нашых грыбных мясьцінах, цешыліся пахам "нарачанскага" хлеба, і ў такой грамадзе ды ў такі дзень грэх было ня ўзяць па кроплі нашае "белавежскае".

Афіцыйна лёнданскія Беларусы сьвяткавалі ўгодкі абвешчаньня БНР на Вербніцу, пасьля літургіі й асьвячэньня вербаў, пасьля малебену за Беларускі народ, што на другім канцы Эўропы, у Беларускай уніяцкай царкве Сьвятых апосталаў Пятра й Паўла, кранаў душу асабліва глыбока: "Цябе, Прачыстая Багародзіца й наша нябесняач Маці, просім: прычыніся за намі, а Ты, сьвятая Еўфрасіньня Полацкая — патронка Беларусі — ды ўсе сьвятыя заступнікі Беларускага Народу, апякуйцеся намі, каб мы сталіся народам сьвятым, выконваючы Волю Божую і сваё пасланство..."

На акадэміі, ладжанай з нагоды Дня Волі, было амаль падамашняму цёпла й прытульна. Прамаўлялі старшыня Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі Янка Міхалюк і ягоны намесьнік сп. Зданковіч, бралі слова паэтка Вера Рыч, консул Рэспублікі Беларусь Алег Якавіцкі, прадстаўніцтва Згуртаваньня Беларусаў сьвету наваградчанка Таццьяна Царук. Сп. Усевалад Рагойша зь Менску прачытаў рэфэрат пра незалежніцкія ідэалы "Нашай Нівы" пачатку стагодзьдзя. Яшчэ больш пашырыў гэтую сьвяточную "геаграфію" госьць з Таронта Кастусь Акула, што прывітаў сход сваімі наогул зычлівымі, але ўадначас і трохі кплівымі вершаванымі радкамі з кніжкі "Усякая ўсячына":

Глян налева і направа,
Што ня крэсла — то дзяяч,
Надта рэдка тут зьява —
Які просьценькі таўкач...

Я чытаў сваё эсэ "Незалежнасьць — гэта...", што было напісанае чатыры гады таму, аднак ва ўмовах Беларусі, на жаль, ані ня страціла свае надзённасьці. Ну, а потым, вядома, пачаліся знаёмствы. Зь бізнэсмэнам Янам Дамінікам, што, як мне паведамілі, за сымбалічна-сьмешныя грошы (1 хунт стэрлінгаў за год) на сто гадоў здаў у арэнду беларускаму пасольству адзін з сваіх лёнданскіх дамоў, паставіўшы адзіную, але катэгарычную ўмову — каб пасьлы гаварылі пабеларуску.

З мастаком Валерыем Мартынчыкам, якога ў Менску выганялі за абстракцыянізм спачатку з мастацкай вучэльні, а потым з тэатральна-мастацкага інстытуту і які цяпер, здаецца, ўжо назаўсёды атабарыўся ў Лёндане.

З ахвярным і руплівым дзясяткамі гадоў працаўнікам на беларускай нацыянальнай ніве Аляксандрам Лашуком.

З псыхолягам Алексам (прозьвішча ў якога, калі верыць візытоўцы — Cato), што лётае па вуліцах на сваім чырвоным матацыкле...

Наперадзе былі антычныя стоды і эгіпецкія муміі Брытанскага музэю. Былі сардэчныя гасьціны ў Янкі й Лёлі Міхалюкоў і ў сп. Дамініка. Былі падарожжы па Лёндане з улюбёным у гэты горад, асабліва ў "Фінчлейскую Беларусь" Кастусём Акулам. Былі рарытэты й старадрукі Скарынаўкі зь іхнім непараўнаным пахам, які можа за колькі вечароў навеяць столькі гістарычных сюжэтаў, што хопіць на ўсё жыцьцё.

І былі Вялікодная ўсяночная і — назаўтра — чульлівая хвіліна разьвітаньня.

Усё гэта таксама просіцца на паперу. Але паколькі гаворка сёньня толькі пра Дзень Волі, скажу адно: у адрозьненьне ад майго эсэ пра незалежнасьць самотніцкі Зянонаў верш пасьпеў страціць актуальнасьць. Кандыдат у прэзыдэнты Беларусі Зянон Пазьняк 25 сакавіка гаворыць ужо ня з хвоямі, а з тысячамі Беларусаў, якія не забыліся пра гэты дзень або нарэшце ўспомнілі яго. Прыйдзе час, і на радасьць аўтару, састарэе й згаданае эсэ. Бо незалежнасьць ператворыцца з шчымлівае мары ў паўсядзённае жыцьцё за вокнамі. Хоць цытаваньне самога сябе ня ёсьць адзнакаю вялікай сьціпласьці, сканчу ўсё-ж аўтацытатаю: "Я веру, што калі-небудзь так будзе. Бо іначай проста ня варта жыць".

*Уладзімер Арлоў*



*Перад* Marian House сьпераду: Караліна М., стаяць: Ірына Д., а. Алесь Надсон, К Акула, дыякан Зьміцер, У.Рагойша, Ул.Арлоў

# УГОДКІ ПЕРАМОГІ І ПАМІНКІ

*Наш мудры таронцкі Грэк Эрык Марголіс, што піша для "Таронта Сан", займаецца інтэрнацыянальнай палітыкай, палітыканствам і, вядома-ж, гісторыяй. Ну, а гісторыя, як вядома, — дрыгва-тэрыторыя. Дзіва няма, што ў артыкуле ягоным, які прапануем чытачом, пра ўдзел Беларусі, як асобнага народу, у Другой сусьветнай вайне, нічога няма. Расейцы праглынулі яе.* **Рэд.**

Угодкі бываюць напружаным часам... Сёлета Эўропа павінна сьвяткаваць інвазію ў Нармандыі, паўстаньне ў варшаўскім гетто і вызваленьне Парыжа. На жаль, сьвяткавальная барабаншчына — сумесь міталёгіі, настальгіі, камэрцыйнасьці і нават крыху запраўднай гісторыі — накладае немалы цяжар на сяньня яшчэ хісткае сужэнства званае Эўрапэйскай Супольнасьцю.

Галоўнай праблемай ёсьць Нямеччына. Ейнага канцлера Гэлмута Кола ветліва папрасілі **ня прысутнічаць** на ўгодках Ды-Дэй (інвазіі ў Нармандыі). Гэта выклікала буру ў Нямеччыне, дзе людзі, зусім слушна, пыталіся: калі—ж нарэшце скончыцца Другая сусьветная вайна і як доўга Нямеччыну гразёй будуць карміць?

Гісторыя ёсьць гісторыяй, — адказалі Брытанцы й Французы. Дык чаму-ж, пыталіся злосныя Немцы, вы запрасілі Італьянцаў браць удзел у дэлегацыі пераможных хаўрусьнікаў? Мы прыгадваем, што Італія і Вішы-Францыя былі хаўрусьнікамі Нямеччыны.

Польскі прэзыдэнт Лех Валэнса выявіў больш зразуменьня й такту ды запрасіў Нямеччыну на цырымоніі сьвяткаваньня Варшаўскага паўстаньня 1 жнівеня.

Можаце спытацца: чаму-ж Нямеччына хоча прысутнічаць на ўгодках такіх згадак пра ейную апаразу? Ды проста таму, што Немцы ўважаюць, што яны ўжо даволі пацярпелі за свае грахі а таксама засьветчыліся сваімі выдатнымі дэмакратычнымі здабычамі. Кажнае выключэньне Нямеччыны з агульна эўрапэйскай падзеі ахутвае яе ў стары кашмар ізаляцыі і зьдзеку.

А як-жа быць з Расеяй, якую запрасілі на ўсе цырымоніі як аднаго із слаўных пераможцаў у Другой сусьветнай вайне? Ці-ж не настаў ужо час, каб насьледнікі ваенных хаўрусьнікаў нарэшце выказалі раскаяньне, што некалі змагаліся ў лізе із Сталінавым СССР? Налета, калі савецкія і амэрыканскія вэтэраны адновяць сваю сустрэчу на рацэ Эльбе, некаторыя зноў паставяць такое нявыгаднае пытаньне. Яно патрабуе адказу.

Сталінаў СССР быў тыраніяй куды больш забойчай чымся Гітлераў Трэці Райх. Шмат Гітлеравых злачынаў рабілася пры канцы вайны й пра іх даведаліся толькі пасьля. Сталінавы-ж найбольш жахлівыя злачыны праводзіліся ад 1931 да 1939 г., пра іх ведаў замежны сьвет, у тым ліку Рузвэлт і Чэрчыл.

Нацыстоўская Нямеччына замардавала каля 10 мільёнаў людзей. Паводле апошніх расейскіх гістарычных дасьледаваньняў, Сталін замардаваў ня менш чымся 30 мільёнаў, а некаторыя расейскія гісторыкі кажуць, што лік вымардаваных сягае бліжэй 40 мільёнаў.

Найбольшым лягерам сьмерці стаўся народ Украіны. У пачатку 1930-х Сталін выслаў туды свайго Айхмана, — Лазара Кагановіча, — з загадам, каб закрыў цэлую краіну а жыхароў выбіў або замарыў голадам. Сем'і мусілі плаціць савецкай тайнай паліцыі за кулі, каторымі тыя забівалі іх родных. Галадаючыя Украінцы былі даведзеныя да людаедзтва, часам елі сваіх дзяцей. Новыя расейскія дасьледаваньні сьцьвярджаюць, што за два гады прымусовай калектывізацыі памерла ад 9 да 11 мільёнаў Украінцаў.

Калі Украіна зьнішчалася, сьвет бачыў гэта й не турбаваўся. Віцэпрэзыдэнт Злучаных Штатаў нават наведаў сталінскі Гулаг у Сібіры і хваліў канцэнтрацыйныя лягеры — "здаровыя працоўныя фармы для беспрацоўных". Зьліквідавалі два мільёны сяброў кампартыі; расстралялі 40 тыс. старшых ваенных афіцэраў; адзін з кажнае дзясяткі Расейцаў трапіў у сталінскую мясасечку; цэлыя народы, Татараў і Чэчэнаў, выселілі на выгнаньне.

Кажную ноч Сталін, наймагутнейшы бюракрат, працавыаў да золаку. Молатаў і Бэрыя рыхтавалі яму сьпіскі пакараных. Сталін чытаў кажнае прозьвішча і апрабаваў экзэкуцыі. Мільёны і мільёны зыбітых, рэкі крыві, пушчы касьцей.

Кажны дырэктар канторы, кажны камандзір, кажны брыгадзір на фабрыцы былі змушаныя даваць сьпіскі "сабатажнікаў, шкоднікаў і капіталістычных агентаў" на згубу або ісьці самім на расстрэл. Гэткім чынам садыста Сталін змушаў мільёны сумленных Расейцаў стацца ягонымі саўдзельнікамі ў масавых забойствах. Ён нават арыштоўваў і высылаў у лягеры сьмерці жонак сваіх найбліжэйшых памочнікаў.

Гэты монстар быў нашым хаўрусьнікам. Спадзяюся, што людзі будуць памятаць гэты ганебны факт, калі сёлета летам пачуюць музыку, пабачаць сьцягі й палітыкаў, што будуць ушаноўваць адыйшоўшую славу Другой сусьветнай вайны. СССР, а пасьля Расея, не ўзяла прыкладу зь Нямеччыны. Яна ніколі ня прызналася да сваіх злачынаў супраць чалавецтва, ніколі не ўзнагародзіла нявінных ахвяр, ніколі не пакарала адказных злачынцаў.

Калі Айхмана судзілі ў Ізраэлі, Кагановіч гуляў у Маскве. Іншыя Сталінавы каты — Хрушчоў, Молатаў, Маленкоў, Мікаян, — пасьля забойства мільёнаў, адыйшлі на выгадныя пэньсіі.

Падчас гэтае настальгіі, мы не павінны забывацца, што *не сама Нямеччына* пачынала вайну. Найперш Італія напала на Альбанію і Абісінію. Тады Расея напала на Фінляндыю. Гэтыя агрэсіі і выклікалі Другую сусьветную вайну.

Сёлета ўлетку пачуеш розных аратараў, што прыгадаюць як Нямеччына пачала вайну, нападаючы на Польшчу. Мала хто прыгадае, што ў 1939 годзе СССР быў саюзьнікам Нямеччыны. Або й тое, што Расея таксама напала на Польшчу й падзяліла яе зь Гітлеравай Нямеччынай.

Даволі бяспамяцтва гісторыі. Пасьля 50 гадоў надыйшоў час глянуць брыдкой праўдзе ў вочы.

Eric Margolis. Toronto Sun. 17.4.1994

# З РАСКІДАНЫХ ГНЁЗДАЎ... ШЛЯХ НА ВЫГНАНЬНЕ

*Сёлета адзначаем паўстагодзьдзе ад вызваленьня Беларусі спад нямецкай акупацыі. Налета - паўстагодзьдзе ад капітуляцыі гітлераўскай Нямеччыны. Ніхто дакладна ня ведае якая колькасьць нашых суродзічаў рассыпалася пасьля вайны па ўсім сьвеце, не вярнулася ў раскіданыя чужынцамі свае родныя гнёзды. Яны выбралі чужыну перадусім таму, што чужынцы ўдома стварылі чужыну.*

*Вядома ўсім, што на моцы падпісаных з Масквой умоваў аб вяртаньні "савецкіх грамадзян" дамоў пасьля вайны, Амэрыканцы, Французы й Англічане далі вольную руку Сталінаву генэралу Піліпу Голікаву, "упаўнаважанаму па справах рэпатрыяцыі". Ён, пры помачы тысячаў сваіх хапуноў-кагэбэшнікаў, з цэнтру ў Парыжы, кіраваў лоўляй і адпраўкай у Гулаг ахвяраў двух ненавісных фашызмаў — бэрлінскага й маскоўскага. Гэтак сталінскія каты-хапуны заганялі ў бальшавіцкае пекла сотні тысяч, мільёны людзей. Колькі Беларусаў такім чынам загінула?*

*Згадкі аднаго, якому ўдалося выратавацца ад бальшавіцкіх нелюдзей, а пасьля прыжыцца на чужыне й памагаць беларускай дыяспары ў працы для беларускай нацыянальна-вызвольнай справы, зьмяшчаем зь невялікімі папраўкамі.*

У верасьні 1944 году Фінляндыя перастала быць хаўрусьнікам Бэрліну, далучылася да Савецкага Саюзу й памагала ў вайне супраць Нямыччыны. Нямецкія войскі змушаныя былі хутка пакінуць тэрыторыю Фінляндыі і адступіць у Нарвэгію. База-лягер Арм Крафт знайходзілася 5 км. ад гораду Рованемі, адкуль пачынаўся палярны круг. База абслугоўвала грузавымі й лёгкавымі машынамі ды запаснымі часьцямі нямецкае войска. Палонныя з гэтага лягеру кажны дзень езьдзілі памагаць выгружаць з вагонаў рознага роду снасьць для аўтапарку. Адсюль адсылалі на рамонт у Швэцыю маторы й розныя машыны. У абслузе базы працавала прыблізна 250 Немцаў і 70 палонных з савецкай арміі. Хоць голад і дакучаў палонным, але ніхто з голаду не памёр.

У 43—м годзе савецкія самалёты бамбілі вялікае ваеннае лётнішча побач нашага лягеру. У бараках паўстала была вялікая паніка, бо ад бамбёжкі ня было дзе схавацца. Ды нас не чапалі й больш сюды савецкія самалёты не прылятал. Каб пазьбегнуць канфліктаў між цывільным насельніцтвам і Немцамі, Фіны перабіраліся ў Швэцыю. На працягу пары тыдняў дзень і ноч гналі табуны хатняй жывёлы, вязьлі рознае дабро. Пасьля-ж і наш лягер пачаў перасяляцца ў Нарвэгію. Кажны з нас, хто мог кіраваць аўтамабілем, атрымліваў грузавую або лёгкавую машыну. У такой сытуацыі мы маглі й ня ехаць зь Немцамі ў Нарвэгію, бо яны ня мелі часу нас пільнаваць. Двое з нас, палонных, асталіся вітаць савецкую армію.

Усім нам рупіла як найскарэй пакінуць Фінляндыю. Баяліся, каб ня "вызвалілі" нас яшчэ раз, ды ня кінулі зноў за калючы дрот, або пагналі на "даёш Бэрлін" ці супраць Японіі. У кажнага з нас, што сьпяшыў на захад, тлела маленькая надзея здабыцьця свабоды. Дарога ў Нарвэгію паўзла каля швэцкай мяжы. Сумны настрой выклікала пустая Фінляндыя. На працягу трох дзён нашага падарожжа мы ня толькі не сустракалі людзей, але нічога жывога, бо ўсё перабралася ў Швэцыю.

Мы начавалі ў сялянскіх хутарох у гумнах, а Немцы ў хатах. Гумны прыемна нагадвалі нам родную Беларусь дый пасьля лагерных нараў мяккае сена ці салома залічалася да раскошы. У сене было захавана рознае варэньне, пераважна з чорных ягад. Мы яго ня бралі бо ведалі што вернуцца назад гаспадары, якія, так як і мы, гаруюць, плачуць па загінуўшых, сіротах і калеках. Побач граніцы бачылі мы швэцкія мястэчкі й сёлы. Нас цягнула да тых сьвётлаў, дзе людзі так спакойна жылі й не паміралі з голаду, ня гінулі на вайне ці ў лягерах сьмерці.

Па дарозе яшчэ пару разоў начавалі мы ў круглых нізкіх фанерных палатках і гэта была ўжо Нарвэгія. На пару тыдняў пасялілі нас у вялікім нямецкім лягеры ў даліне між гор. Дьмулі тут вялікія вятры. Немцы й мы бязьдзейнічалі, а нашы "апякуны" наракалі, што няма дзе мыцца і завяліся ўжо вошы. Пазьней перавезьлі нас у нашу часьць Арм-Крафт, дзе былі да канца вайны. Жылі ў вялікім гемне, спалі на трохпавярховых ложках. Пасярод гумна стаяла вялікая бочка, што грэла нас 24 гадзіны.

Пасьля капітуляцыі парадак і дысцыпліна трымаліся як і раней. Нашыя хлопцы пачуліся больш свабоднымі й дакаралді Немцам. Ваенная жандармэрыя чатырох нас арыштавала й пасадзіла ў вязьніцу пры ваенным корпусе. Тут былі толькі нямецкія вязьні, шматлікія зь іх псыхічна хворыя. Мы асабліва не перажывалі, бо спадзяваліся лепшае будучыні, адно цярпелі голад і ненавідзелі турэмныя нары. Знайшліся Беларусы, якія жылі ў лепшых умовах за нас і яны нам дапамагалі перажыць цяжкі час.

Пасьля 4-5 тыдняў начальнік турмы сказаў нам, што прыйшоў загад адаслаць нас у польскі лягер, а адтуль можам вярнуцца дадому. Пад канвоем адвезьлі нас у Нарвік. У польскім лягеры камэндант, львоўскі Паляк, адмовіўся нас прыняць, таму што мы палонныя з савецкай арміі. Ён раіў Немцу адаслаць нас у савецкі абоз, бо яму загадалі ня прыймаць савецкіх палонных. Я доўга тлумачыў яму, што мы — польскія грамадзяне, якіх прымусова забралі ў савецкую армію. Яшчэ я сказаў яму, што нас накіравала сюды Аліянская камісія, а яму ня трэба баяцца што прыняў у абоз польскіх грамадзянаў. Пасьля боязі, што нас могуць адправіць у савецкі лягер, мы чуліся ў польскім лягеры як быццам на кароткі час прыехалі сюды на канікулы.

Нарвэскі Чырволны Крыж апрануў нас у цывільнае, харчаваліся зь лягернай кухні, ніхто не працаваў і ня было ніякае вайсковае дысцыпліны; можна сказаць, поўная свабода. Кажны дзень слухалі польскамоўныя навіны з БіБіСі ў Лёндане. Тут я пачуў што Амэрыка скінула атамныя бомбы на Гірашыму й Нагасакі. У Нарвэгіі тады бало звыш 80 тысяч савецкіх палонных і вывезеных сюды на працу цывільных. У канцы чэрвеня распачалася рэпатрыяцыя гэтых людзей "на радзіму".

Па вуліцах Нарвіку цэлы дзень калёны палонных ішлі да цягніка, а з вуснаў іхных лілася мэлёдыя "Москва моя, страна моя" і іншыя. Нават Нарвэгі, вельмі прыхільныя да Саветаў за вызваленьне ад Гітлера, ведалі мэлёдыі некаторых бальшавіцкіх песьняў.

Цераз дарогу ад польскага абозу была савецкая рэпатрыяцыйная місія. Са сьцяны іхнага будынку ўталопіўся

на нас лёдзянавокі твар Сталіна. Страх. Мы стараліся ў гэны бок не глядзець. Адправіўшы ў імпэрыю сваіх людзей, пачала тая бальшавіцкая місія выцягваць свае шчупальцы й шукаць савецкіх грамадзян у іншых абозах, каб выпаўніць, пэўне-ж, плян рэпатрыяцыі на 100% . Наш лягер кажны дзень пачалі наведваць савецкія "місіянеры". Угаварвалі нас, што паедзем да сваіх бацькоў, што нікога не пакараюць за тое, што былі ў нямецкім палоне. Звычайна ласкавыя словы й заклікі падмацоўваліся пагрозамі, што нікуды ад іх мы не ўцячом — никуда не уйдете! — і будзе для нас шмат горш, калі сілай адашлюць нас "на родину".

Пасьля месячных мітынгаў, намоваў і пагрозаў ад людзей Голікава, амаль усе Беларусы з польскага лягеру пайшлі пераз вуліцу ў савецкі. Там, вядома—ж, трымалі не абы якую дысцыпліну. Без дазволу нікуды не адлучышся, ня пойдзеш у горад. Ужо трымалі некалькі людзей у турме. Прывязьлі іх ад нарвэскіх фармараў, прывучалі да рэжыму ўжо тут, бо да Калымы яшчэ кавалак сьвету. Пасьля 3—4 тыдняў сабралася больш 200 асобаў, рыхтаваўся транспарт, каб адаслаць нас "на родину". Гэны час вырашаў наш лёс, нашу будучыню. Палонныя Беларусы цяжка перажывалі тую пару, ды ня мелі адвагі выскачыць з той клеткі, якая яшчэ ня было поўнасьцю ... мкнёнай.

...не ў тым лягеры ніколі ня верылася, што вярнуся да родных. Наперадзе бачыў тэрор допытаў, зьнявагі, голад і холад, сьмерць у Сібіры. Не адкладаючы, я пайшоў у Нарвэскі Чырвоны Крыж і расказаў дырэктару пра маю праблему. Мы гаварылі панямецку. Ён мяне зразумеў і хацеў перавесьці ў іншы лягер, ды ня мог гэтага зрабіць бо, казаў, усе лягеры былі ўжо закрытыя. Калі-ж я вярнуўся ў "свой" лягер, камэндант, былы палонны палкоўнік, паклікаў да сябе й давай распытвацца: чаго я хадзіў у Чырвоны Крыж. Я сказаў, што перад вайною меў ужо ўсе дакумэнты для выезду да брата ў Амэрыцы, але вайна перашкодзіла, а цяпер ёсьць магчымасьць мне да яго паехаць.

— А чаго табе ехаць у Амэрыку? — накінуўся на мяне камэндант. — Будзеш там грузчыкам, цяжка працаваць. Ты яшчэ малады і ўсе дарогі для цябе на радзіме адкрытыя... А як ты ў тую Амерыку даедзеш?

— Таварыш палкоўнік, гэта мая справа і прашу толькі асвабадзіць мяне з гэтага лагеру!

— Мы стараемся ўсіх савецкіх грамадзян вярнуць на радзіму! — ўсхадзіўся маскаль. — Ня думай самавольна адсюдава выйсьці, бо ад нас "не удереш"!

Я яму сказаў, што нічога самавольна рабіць ня буду. З набліжэньнем часу ад'езду кашмар панаваў у маіх думках. Было спадзяваньне, што не забудзецца пра мяне ураднік з Нарвэскага Чырвонага Крыжа...

У нядзелю якіх 200 асобаў сабралі на плошчы. Заўтра з Нарвіка, праз Швэцыю і Фінляндыю мелі адаслаць нас "на родину".

У апошні момант нашых цяжкіх пакутаў і перажываньняў зьявілася Аліянская камісія, каб праверыць ці мы ўсе савецкія грамадзяне і ці хочам дабравольна ехаць дадому. Старшынём камісіі быў брытанскі палкоўнік, а зь ім быў амэрыканскі і савецкі палкоўнікі ды нарвэскі афіцэр перакладчык.

На пытаньне, ці да 39-га году мы былі савецкімі грамадзянамі і ці хочам дабравольна вяртацца ў Савецкі Саюз некаторыя паднялі ўверх рукі. Савецкі палкоўнік намагаўся пераканаць перакладчыка, што ўсе мы ёсьць савецкія і хочам дадому ехаць. Я сказаў нарвэскаму афіцэру, што многія з гэтых людзей жылі да вайны ў Польшчы і ніяк ня хочуць ехаць у Савецкі Саюз. Каля Нарвэга сабралася група людзей і ён сказаў нам, што згодна дагавору ў Ялце, грамадзяне Польшчы маюць свабоду і ў Савецкі Саюз могуць ня ехаць.

Старшыня камісіі заўважыў, што людзі ўзбунтаваліся й перакладчык вытлумачыў яму, што некаторыя адмаўляюцца ехаць у Саветы. Брытанец, памеркаваўшы, загадаў кожнага асобна праверыць у лягернай канцылярыі. Нас паставілі ў адзін рад і савецкі лейтанант бегаў перад намі й палохаў нас вялікай карай калі мы ня вернемся на радзіму гэтым транспартам. Перакладчык пытаўся ў кажнага дзе жыў ён да 39-га году й ці хоча ехаць у Савецкі Саюз.

За тую гадзіну праверкі кажны Беларус мог яшчэ выскачыць з нарыхтаванай бальшавіцкай пасткі. Не памятаю дакладна, але больш чым 20 Беларусаў адлучылі ад усёй грамады й перавезьлі ў іншы лягер, а іншых павязьлі назад у савецкую імпэрыю. І нас не пакінула трывога: куды нас цяпер павязуць і ці ўдасца калі вярнуцца ў родную Беларусь?

З Нарвіка перавязьлі нас у міжнародны лягер, а яшчэ пазьней параплавам выслалі на поўдзень Нарвэгіі ў горад Крыст'янсанд. У тутэйшым вялікім абозе было многа цывільных Бекларусаў зь Беласточчыны й Слонімшчыны. У палове лістапада 1945 г. увесь абоз з Нарвэгіі адправілі ў Брэмен у Нямеччыне. Тут і мы і Немцы праходзілі прпавенрку. Чырвоны Крыж даў нам скромныя харчавыя пачкі і адтуль перавезьлі ў польскі лягер Газэнэкэ каля Касэля.

У гэтым лягеры было многа Беларусаў, некалі вывезеных на працу ў Нямеччыне. Я сустрэў людзей з Ляхавіч і яны мне расказалі пра жыцьцё й пакуты суродзічаў удома падчас нямецкай акупацыі. Я напісаў пісьмо брату ў Брукліне з просьбай, каб памог мне перабрацца ў Амэрыку. Брат Хвёдар у той час жыў у іншым горадзе на Лонг Айланд, але яго прыяцелі маё пісьмо яму перадалі. Я вытлумачыў брату чаму не вяртаюся на радзіму. Пры канцы 1946 г. атрымаў патрэбныя дакуманты. У Марбургу ў Нямеччыне 21-га травеня 47-га году ажаніўся з Вандай, студэнткай мэдыцыны ў марбурскім унівэрсытэце. Я эміграваў у ЗША ў чэрвені 47-га, а Ванда прыехала будуваць супольнае жыцьцё наша ў Амэрыцы, ў лістападзе, 1949 г.

*Каралёў Міхась,* чэрвень, 1993.

---

### *КАМУ ПАТРЭБНАЯ ТАКАЯ НАВУКОВАСЬЦЬ?*

Калі сп. Л.Пранчак гады чатыры назад зьвярнуўся да мяне, каб даў адказы на пэўныя пытаньні, што адносіліся да майго жыцьця й літаратурнай творчасьці, ён атрымаў патрэбныя інфармацыі. З гэтага нарадзіўся артыкул "Для заробку ніколі ня пісаў" у "Літ. і Маст." 31.7.1992 г. Меркавалася, што на гэтым не канец. Лявон Пранчак, што пасьля прадаўжаў свае падарожжа ў беларускае замежжа, не пакінуў і мяне ў супакоі. Летась выйшаў 1 том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" ў Менску тыражом 20 тыс. І вось што там Пранчак адкрывае пра Акулу:

**Кастусь Акула [сапр. Качан Аляксандар...]**

Заўважце **»сапр.»**— г. зн. сапраўднае прозьвішча... Бачыце, гэта-ж некалі бэсэсэраўскія кадэбэшніцкія маскоўскія цівуны выдумалі, што маё цяперашняе прозьвішча несапраўднае, бо, бачыце, я — быццам "вораг народу", ваяваў супраць саюзных войскаў, рабіў іншае барахло, а пасьля, каб уцячы ад

**Генадзь Сагановіч**

# ЗЕМСКАЕ ВОЙСКА

## Беларуска-Літоўскай Дзяржавы ў XVI - XVIIст.ст.

**Асновай узброеных сілаў Вялікага Княства ў позьнім сярэднявеччы заставалася паспалітае рушаньне, ці абарона земская. Гэтак называлі службу ваенна-абавязанай часткі насельніцтва. Кожны грамадзянін Княства, які валодаў зямлёю, мусіў адбываць вайсковую павіннасьць, т. зв. земскую службу. Яе памеры вызначаліся вялічынёй зямельнага надзелу й колькасьцю сялянскіх гаспадарак, што належалі землеўладальніку. Колькасьць ратнікаў была прапарцыянальнай колькасьці ўласных сялянскіх службаў [служба — адзінка абкладаньня павіннасьцямі, якая ўключала 2 ці 3 сялянскія дымы, або гаспадаркі]. Ад кожных 8, а потым 10 службаў патрабаваўся адзін добра ўзброены й забясьпечаны коньнік [»конь»]. Землеўладальнік, што ня меў нават 8 службаў, мусіў ехаць на службу адзін, узброіўшыся па сваіх магчымасьцях. Ад асабістай службы вызваляліся толькі хворыя, непаўналетнія ці занятыя на дзяржаўных пасадах. Абавязак »вайну служыці» пашыраўся нават на ўладаньні духавенства. Вольнымі ад удзелу ў паспалітым рушаньні былі ваяводы, старасты й дзяржаўцы памежных раёнаў, у якіх знаходзіліся замкі.**

**Апроч абавязковых коняў [тых, што ставіліся прапарцыянальна памеру зямлі], паны маглі выстаўляць дадатковую колькасьць ратнікаў, — ужо не з павіннасьці, але »на ласку господарскую», долбраахвотна.**

**Асноўную частку паспалітага рушаньня ў XVI XVII ст.ст.** складала дробная і сярэдняя шляхта. Аднак ваеннай павіннасьцю былі ахоплены й мяшчане. Гаспадарсікя гарады мусілі таксама высылаць сваіх ратнікаў у земскае апалчэньне. Прыкладам, прывілей на магдэбурскае права, выдадзены Ваўкавыску ў 1507 г., абавязваў жыхароў гораду "на вайну хадзіці, паводле уставы, як і з іншых местаў". Мяшчане Полацку, якія валодалі зямлёй, у 1528 г. выстаўлялі ў земскае войска 139, а ў 1552 — 49 коньнікаў. Часта, замiж абавязку пасылаць ратнікаў, гарады абкладаліся асобным падаткам.

Апроч удзелу ў апалчэньні, гарадзкая абшчына выконвала шэраг абавязкаў па мясцовай абароне. Звычайна ўсе мяшчане мусілі трымаць удома зброю — ручніцы, рагаціны, сякеры ды інш. У многіх гарадох, найперш памежных, да ўвядзеньня магдэбурскага права існавала існавала асобная катэгорыя мяшчанаў, якія пастаянна несьлі дапаможную ваенную службу. Гэта т. зв. мяшчяане конныя, баяры ці слугі панцырныя. Яны былі ў Полацку, Віцебску, Магілеве, Кіеве і іншых гарадох. У XVI ст. такія групы мяшчан паступова зьніклі. Засталіся слугі замкавыя і путныя, якія служылі за зямлю ў гарадзкой рысе ці за карыстаньне замкавай пашняй. У некаторых гарадох на Дзьвіне старажавую службу несьлі таксама казакі (у Полацку на замку ў 1552 г. рэестр зафіксаваў 6 казацкіх службаў).

На пачатку XVI ст. земскую службу адбывалі і сельскія войты. Але простае сялянства амаль ня ведала ваенных павіннасьцяў. Толькі ў рэдкіх выпадках, як, прыкладам, у гады Полацкай вайны, гаспадарскія сяляне былі абавязаны



13. **Поўная зброя рыцара** — камплект ахоўнага ўзбраення з каваных пласцінак, якi закрываў усё цела, нават пальцы рук і ног. Адзяваўся на ватныя падкладкі. Важыў каля 25 кг. Выкарыстоўваўся ў XV—XVI стагоддзях.

---

"народнага гневу", пад чужым прозьвішчам схаваўся. Пранчак тут, відаць, памыліўся. Што-ж, мае цяперашняе прозьвішча несапраўднае?

У тым-жа вышэйзгаданым артыкуле ў "Літ. і Маст." сказана на самым пачатку: "У "Голасе вёскі" за 19 сакавіка 1943 г. зьмясьцілі мой першы верш.

Л.Пранчак у Энцыклапедыі піша: **»Як пісьменьнік дэбютаваў у 1957, надрукаваўшы ў газэце »Бацькаўшчына» [Мюнхэн] камэдыю »Тараканы ў саладусе».**

Ад 43 году да тых "тараканоў" — 14 годзікаў. І як і навошта спатрэбілася такое выдумляць?

Пранчак спасьцярог далей, што Акула — **»рэдактар і выдавец штомесячнікаў »Беларускі Эмігрант» [1948-49], часапісу »Зважай»...**

Некалі я выслаў шаноўнаму менскаму Пранчаку поўную істужку ўсяго шасьцігадовага зьместу "Беларускага Эмігранта", што быў выдаваны Згуртаваньнем Беларусаў Канады пад маёй рэдакцыяй ад 1948 да 1954 году ўключна. Я прасіў, каб тую істужку ён пасьля перадаў у Беларускую Нацыянальную Бібліятэку. І сяньня мне невядома, дзе яна тая істужка. А сп. Пранчак скараціў сваёй "навуковасьцю" жыцьцё "Беларускага Эміграна" да двух гадоў. Часапіс "Зважай" выдаваў ужо на працягу 20 гадоў і цяпер выдае Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў, а не адзін чалавек...

Бачыце, якія адкрыцьці сп. Пранчак пра мяне зрабіў! Калі гэта ёсьць навуковасьць, ды калі й іншыя аўтары ў той энцыклапэдыі нашай гісторыі на ягоным узроўні, дык невялікая, відаць, іх навуковая вартасьць.

*К.Акула*

падвозіць правіянт, рамантаваць дарогі ды выконваць іншыя дапаможныя працы. Такім чынам палявое земскае войска ўтваралася практычна адным ваенна-служылым станам — шляхтай.

Пытаньне аб скліканьні ўсяго паспалітага рушаньня дзеля пачатку баявых дзеяньняў (а яно прызначалася толькі дзеля абароны, а не інвазіі) належала да кампэтэнцыі вальнага сойму (як, дарэчы, усе пытаньні пра вайну, пра збор серабшчыны). "А без сойму и позволения всих станов войны вчиняти и вести не маем", сьцьвярджалася ў адпаведным артыкуле аб абароне земскай Статуту 1588 г. Пасьля таго, як усе станы прыймалі рашэньне аб мабілізацыі, манарх высылаў унівэрсалы ў паветы і ваяводзтвы, у якіх паведамляў пра месца й час гуртаваньня войска. Гэтае-ж маглі рабіць гэтман ды паны-рада у XVI ст. Зборам павятовых харугваў кіравалі харужы й кашталян (галоўным чынам першы), якія пасьля перадавалі апалчэньне ваяводу. Буйныя землеўладальнікі, якія прыводзілі вялікі ўласны адзьдзел коньнікаў, не ўваходзілі ў павятовую харугву, а выступалі са сваім почтам. З ваяводзтваў злучаныя харугвы рухаліся да месца галоўнага збору й пераходзілі пад уладу гэтмана. Там праводзілася рэгістрацыя ўсяго сабранага войска (складаўся палявы попіс), пасьля чаго яно лічылася гатовым да баявых дзеяньняў. Кожны ратнік мусіў трымацца сваёй павятовай харугвы, быць пры сваім харужым і нікуды не адлучацца без дазволу гэтмана.

Соймавыя пастановы і адпаведныя артыкулы Статутаў вызначалі пэўную норму узбраеньня ратнікаў. Ратнік мусіў быць "зо всим на добром кони, што бы конь стоял нанменшей осм коп грошей литовских, а на нем сукня цветная, панцер, прылбица, мечь, павеза, древо с прапорцем цветным" (Статут 1566 г.). Аднак рэальны стан узбраеньня , зафіксаваны палявымі попісамі, значна адрозьніваўся ад патрэбнай нормы і быў далёка не стандартны.

Што да коньніцы, дык попісы 1565 і 1567 гг. адрозьнівалі некалькі тыпаў узбраеньня земскага войска: "збройно по усарску", "по козацку", а таксама "по кашубску". У кожным з гэтых тыпаў — даволі ўстойлівы набор зброі, аднак попіс не пералічвае яго цалкам. Для коньнікаў узброеных пагусарску звычайна фіксуюцца толькі тарча і дрэўца (дзіда), радзей згадваюцца яшчэ панцыр і прылбіца; для тых-жа, хто выстаўлены паказацку, — панцыр, прылбіца, сагайдак, шабля й рагаціна, але часьцей пазначаны толькі сагайдак ды рагаціна. Менавіта наяўнасьць дзіды ды тарчы ў адных ды лука з калчанам, або й рагаціны, у іншых было галоўным адрозьненьнем двух узораў узбраеньня — гусарскага й казацкага. Іх мела большасьць коньнікаў. Вершнікі, выстаўленыя пакашубску, зьяўляліся блізкай да казакаў, але больш лёгкай кавалерыяй. Часта рэестр не называе тыпу ўзбраеньня, а толькі пазначае, што коні "збройныя" (г.зн. у засьцерагальнай зброі — панцырах, прылбіцах, з тарчамі). Толькі ў паасобных выпадках зафіксаваны дарагія "зброи бляховы", што азначае пласьцінкавыя мэталічныя дасьпехі, затое іншыя вершнікі былі ўзброеныя зусім бедна — "в скурках з ощепы". Пра некаторых сьціела напісана: кляча, мечь, рогатина". Агнястрэльная зброя земскай коньніцай практычна яшчэ не выкарыстоўвалася. Праўда, ужо ў 1579 г. на аглядзе войска пад Дзісной, праведзенага С.Батурам, у вершнікаў мусіла быць па пісталету.

Пешыя ратнікі ("драбы"), паводле попісаў, мелі ручніцы, вошчапы, мячы, сякеры, але ўвесь гэты камплект разам амаль не фіксуецца. Звычайна драб выступаў з ручніцай і сякерай, з ручніцай і вошчапам, або толькі з адной агнястрэльнай ці халоднай зброяй. Увогуле, набор узбраеньня пяхоты бяднейшы чым коньніцы. Асабліва рэдка сустракаюцца дасьпехі: толькі ў паасобных выпадках — "драбы... во зброех бляховых". У гэтым сэнсе ратнікі земскай службы моцна саступалі найманай пяхоце.

Наогул у соймавых ухвалах XVI ст. аб абароне земскай ды ў адпаведных разьдзелах Статутаў пералічаны даволі багаты камплект зброі, якая шырока выкарыстоўвалася тады земскім войскам Вялікага Княства (пра што сьветчаць і попісы): прылбіца, шышак, панцыр, павеза, тарча, рагаціна, меч, корд, шабля, шпага, кінжал, пулгак ("пуйнал"), ручніца, аркебуза й лук; у Статуце 1588 г. ужо не фіксаваліся панцыр, прылбіца, павеза, тарча, і рагаціна (павеза і некаторыя іншыя віды ахоўнай зброі на той час выходзілі з ужытку).

Паспалітым рушаньнем Княства камандаваў гэтман найвышэйшы (з XVII ст. — вялікі), хоць вышэйшая ўлада над войскам належала вялікаму князю й каралю, які мог дзяліць яго на часткі, вызначаць для кожнай асобную задачу, нават высылаць рушаньне за межы дзяржавы, як у 1620 г., што супярэчыла асноўным прынцыпам арганізацыі земскай службы. Здаралася, што манарх і зьбіраў рушаньне без адпаведнай ухвалы сойму. Канцылярыя манарха і вышэйшае вайсковае камандаваньне былі адасобленыя. Чын гэтмана найвышэйшага маглі атрымаць, як таго вымагаў закон, толькі "годныя и досветчоныя люди народу шляхетского, родичи стародавние тутошнего панства". Харужымі таксама прызначаліся толькі "родичи властные того панства". Гэтым войска Вялікага Княства аберагалася ад непасрэдных умяшаньняў Кароны Польскай.

Кампэтэнцыі гэтмана найвышэйшага як галоўнага правадыра войска былі значна пашыраныя ў часы панаваньня С.Батуры, калі гэтая пасада стала пажыцьцёвай, а гэтман



14. Узбраенне каня — маска на галаву і сталёвыя латы, што закрывалі ад удараў халоднай зброі шыю, грудзі і крыж каня. Выкарыстоўвалася цяжкаўзброенымі рыцарамі ў XV—XVI стагоддзях. Звычайна накрывалася ярка расфарбаванымі ўпрыгожаннямі.

атрымаў функцыі ваеннага міністра (камплектаваньне ўзброеных сілаў, выкарыстаньне серабшчыны, нагляд за станам памежных замкаў, а ў XVII ст. і ўся справа падрыхтоўкі цэлага краю да вайны). У часе вайны падпарадкаванае яму войска было ў поўнай уладзе гэтмана, якому належала права суду й сьмяротнай кары. Праўда, ініцыятыва гэтмана ўсё-ж абмяжоўвалася манархам, без адпаведнай санкцыі якога нельга было ствараць войска й весьці перамовы зь няпрыяцелем.

У часе міру, каб трымаць кантроль і падтрымліваць баяздольнасьць рушаньня, праводзіліся агляды й пописы войска па ваяводзтвах і паветах. Попісамі мусілі займацца харужыя, што мелі адказнасьць за бясьпеку паветаў, або маршалкі. Праўда, хоць попісы прызначаліся даволі рэгулярна, праводзіліся яны даволі рэдка.

Падтрымка дысцыпліны ў войску й рэгуляваньне ягоных дачыненьняў з цывільным насельніцтвам забясьпечваліся нормамі ваеннага права, кадыфікаванымі ў Статутах, а таксама "Артыкуламі вайсковымі". Яшчэ на пачатку XVI ст., калі войны з Маскоўскай дзяржавай вымагалі ад Вялікага Княства максімальнай мабілізацыі сілаў, шляхта не паддалася некаторым патрабаваньням цантральнай улады, што адбілася на характары выпрацаваных тады ваенна-прававых нормах. Калі пастанова сойму ў 1507 г. прызначыла сьмяротную кару за самавольны ад'езд шляхціца з вайны (як і за незьяўленьне на месцы збору рушаньня), дык ужо ў 1522 г. сойм мусіў замяніць сьмерць канфіскацыяй маёнтку, бо абсэнтызм стаўся такой шырокай зьявай, што сьмяротнае пакараньне проста нельга было выкарыстоўваць. Таму й прадугледжаная III Статутам сыстэма пакараньняў за вайсковыя правапарушэньні адрозьнівалася ад адпаведных нормаў суседніх дзяржаваў сваёй мяккасьцю. Сьмяротная кара ўжывалася толькі ў тых выпадках, калі ратнік учыніў забойства, згвалціў жанчыну, параніў ці зьбіў шляхціца або сьвятара. А за такое важнае парушэньне дысцыпліны, як уцёкі з поля бою, вінаватага чакала толькі страта маёнтку й шляхоцкае годнасьці.

Няўдзел у вайне, ухіленьне ад попісу, недазволены ад'езд з войска, — за ўсё гэта пагражала таксама толькі канфіскацыя земскіх уладаньняў. Для параўнаньня варта адзначыць, што тагачаснае права ў Маскоўскай дзяржаве прадугледжвала сьмяротную кару за ўзброены бунт, непадпарадкаваньне, здраду, здачу гораду няпрыяцелю, прыём замежных людзей і проста зносіны зь імі; за ўхіленьне ад службы ратнікі высылаліся ў Сібір, за многія іншыя парушэньні ім пагражала адсяканьне частак цела, турэмнае зьняволеньне, а шэраг артыкулаў Улажэньня 1649 г. патрабаваў "бити кнутом нещадно", што практычна канчалася забойствам, бо колькасьць удараў не вызначалася.

Колькасьць паспалітага рушаньня ў Вялікім Княстве ў XVI ст. можна вызначыць на аснове палявых попісаў. У першым вядомым Попісе 1528 г. зарэгістравана 19844 ратнікі, зь якіх 11214 — шляхта, а 7757 — почты магнатаў. Але гэта была ня ўся земская служба дзяржавы (без харугваў з Падляшша і зямель Украіны — Валыні, Падольля, Кіеўшчыны). Польскі гісторык Т.Корзан са спасылкай на Любамірскага падаваў на 1529 г. 24446 чалавек паспалітага рушаньня, а папскі нунцый Ругіеры лічыў, што Вялікае Княства XVI ст. магло-б выставіць да 70 тысячаў земскага войска, але на практыцы добра,калі зьбярэ хоць палову ад гэтага.

Полацкая вайна запатрабавала ад Вялікага Княства максімальных выенна-фінансавых высілкаў "для обороны и валки потужное". Агульнае паспалітае рушаньне, якое даўно сталася перажыткам і ўжо зусім не зьяўлялася сапраўды агульным апалчэньнем усяго шляхоцкага стану, заставалася, аднак, асновай абароны краіны. Раз за разам прымаліся ўхвалы аб яго мабілізацыі, у прыватнасьці на вальных соймах 1563, 1565, 1566 і шэрагу наступных гадоў, пры чым у 1566 г. праблемы абароны разглядаліся ажно на трох соймах. Аднак у поле да гэтмана найвышэйшага не зьяжджалася й паловы той колькасьці, якую мусіла мець земскае войска.

Неабходнасьць узьняць баяздольнасьць войска вымушала прыймаць ухвалы аб дадатковым падатку ("пагалоўшчыне") для найму жаўнераў, а таксама павялічваць нормы павіннасьцяў. У 1563 г. кожныя 20 службаў мусілі выстаўляць апроч 2 коньнікаў яшчэ 1 пяхотніка з руцчніцаю і рагацінай ці сякерай, у 1566 г. па аднаму драбу абавязаныя былі выставіць ня толькі 20 земскіх службаў, але і 10 мяшчанскіх дымоў. Аднак гэтыя захады практычна ня выводзілі састарэлай арганізацыі абароны краіны з крызісу.

Самым поўным зборам ваенных сілаў стала мабілізацыя 1567 г., калі, паводле пастановаў Гарадзенскага сойму, войска Вялікага Княства зграмадзілася пад Маладэчнам і Дебедзевым для контрнаступу — выправы на Маскву. Мяркуючы па рэестру, тут сабралася 47 тысяч ратнікаў, зь якіх больш за 30 тысячаў — земскай службы. Але й гэта была далёка няпоўная рэалізацыя мабілізацыйных магчымасьцяў дзяржавы. Зусім адсутнічалі коні з акупаванай царом Полаччыны. Аршанскі павет прыслаў толькі 6 вершнікаў і 3 драбаў, бо ўся іншая шляхта засталася, каб бараніць аршанскі замак. З Мазырскага павету зьявіліся толькі 24 кані і 6 драбаў.

Сабранае ў 1567 г. войска, на думку Г.Лаўмяньскага, складала толькі 30% патэнцыяльна магчымай колькасьці ўзброеных сілаў дзяржавы. Але большай арміі Вялікае Княства больш ніколі ня зьбірала. Наадварот, колькасьць паспалітага рушаньня паступова зьмяншалася. У Полацкай выправе 1579 г. ад Беларусі й Літвы бралі ўдзел 11 тысячаў шляхоцкага рушаньня (зь іх 2 тыс. пяхоты), а таксама 10 тысяч магнацкіх почтаў (8300 коньніцы і 1700 пяхоты). У паходзе на Вялікія Лукі ў 1580 г. усё войска Вялікага Княства сягала 25680 чалавек, у складзе якіх харугвы шляхты й магнацкія почты галічвалі па 10 тысячаў (рэшта — найміты). У паходзе на Пскоў у 1581-82 гг. ад беларуска- літоўскай дзяржавы ўдзельнічала ўжо толькі 20-тысячная армія.

У XVII ст. заміж паспалітага рушаньня ваяводзтвы й паветы ўсё часьцей выстаўлялі найманае войска, колькасна ў некалькі разоў меншае за земскае. Так, калі ў 1596 г. Менскае ваяводзтва выставіла на барацьбу з казакамі С.Налівайкі 781 чалавек земскай службы, дык у 1651 г. — харугву найманых казакаў (120 чалавек). Полацкая шляхта таксама выслала харугву наймітаў. Вялічыні харугваў, што выстаўляліся заміж паспалітага рушаньня, тэрмін іх службы, не вызначаліся цантральнай уладай, — усё вырашалі паветовыя соймікі. Калі паспалітае рушаньне Навагрудзкага ваяводзтва паводле попісу 1651 г. налічвала 1210 ратнікаў, дык выстаўленае шляхтай у 1655 г. найманае войска складалася са 100 гусараў і 200 казакаў.

*Працяг будзе.*

## ФОНД "ЗВАЖАЙ

Ад паловы лютага да канца красавіка сёлета на "Зважай" прыйшло: Г.Шэйпак — 17.00 дал., С.Буткевіч — 40.00 ,Баяроўскі — 40.00, А. Лашук — 200.00, Б.Даніловіч — 34.00, І.Кахановуская — 27.00, М. Тулейка — 54.00, Я.Сурвілла — 85.00, П.Конюх — 20.00. Разам — 517.00 дал. Усім шчырая падзяка.